Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 17 (30). Вільня, Субота, 27-га лютага 1926 г. Год II.



## Красамоўныя факты.

Часта факты гавораць шмат больш, чым самыя мудрыя тлумачэньні іх. Вось і падаем вязанку гэткіх фактаў на гэтым мейсцы, бо перад іх красамоўнасьцяй усе нашыя доказы і аргумэнты—лішнія...

* * *

Перад усім—з галіны *народнае асьветы*.

Як ведама, польская народная асьвета ў Заходняй Беларусі фактычна мала мае супольнага з асьветнымі, узгадавальнымі, пэдагогічнымі заданьнямі. Гэта — магутнае *арудзьдзе палянізацыі* — і больш нічога! Пачытайце ўважна характэрыстыкі польскіх казённых „культуртрэгераў“ на нашай зямлі, падаваныя ня толькі беларускай, але і *польскай прэсай*, і вам будзе ясна, што ў іх „працы“ на першым мейсцы стаіць *палітыка*.

Але — такія палітычныя агенты дорага каштуюць. Іншыя з іх бяруць навет падвойныя пэнсіі: адну — з міністэрства асьветы, другую—з міністэрства ўнутраных спраў, як агенты і канфідэнты палітычнае паліцыі. І вось цяпер, у меру абрэзываньня „моцарствовага“ бюджэту Польшчы, прыходзіцца ў нейкай меры *агранічыць і дзейнасьць палітычна-асьветнага апарату*.

Праектаваны п. Грабскім бюджэт міністэрства асьветы ў ліку 402 міліёнаў злотых прышлося зьменшыць да сумы 270 міліёнаў. У выніку гэтага звальняецца 1,000 народных вучыцялёў і 750 заступнікаў іх (без кваліфікацыяў!), зачыняюцца 34 прэпаранды (курсы дзеля падрыхтоўкі народных вучыцялёў) з агульнае лічбы 42, ліквідуюцца 6 вучыцельскіх сэмінарыяў, 1 сэмінарыя „ахранярак“, 6 гімназіяў, касуюцца 70 штатных вучыцельскіх становішч у сярэдніх школах...

„Рэдукцыя“ абыйме і вышэйшыя школы—ўнівэрсытэты, якіх у Польшчы „нарабілі“ больш, чым яна ў сілах утрымаць. У працягу 1926 году будуць пуставаць 26 катэдраў, а з восені астануцца неабсаджанымі 40 этатаў асыстэнтаў....

Ці цешыцца нам, беларусам, што корчыцца апарат палянізацыі нашага народу, ці плакаць?—Трудна сказаць. Хіба што ўрад, спыняючы разьвіцьцё польскага школьніцтва на няпольскіх землях, дазволіць урэшце беларусам адчыняць на свой уласны кошт прыватныя школы, каб нашы дзеці аканчальна ня дзічэлі?!—Хто ведае: а мо' і прыдзецца ўраду на гэта пайсьці і аблягчыць свайму скарбу ягоныя клапоты?!....

* * *

Але бюджэту міністэрства *ваенных спраў* чапаць не адважаюцца навет самыя адважныя „санатары“. А бяз гэтага, як казаў ужо фінансавы дарадца Польшчы, Хільтон Юнг, аб бюджэтнай раўнавазе нельга і думаць....

Дык-жа аб'явіўся чалавек, які знайшоў „геніяльны“ выхад з палажэньня.—Не хватае грошы на войска? Дык што тут доўга думаць: трэба абрэзаць крэдыты тых міністэрстваў, без якіх Польшча і так абыйдзецца! Вось, істнуе такое міністэрства зямляробства, якое павінна падыймаць сельскую гаспадарку ды вучыць народ, якімі спосабамі можна падняць вытворчасьць працы на ральлі. Ясна, што найбольш такое навукі і помачы патрабуюць *сяляне*. Але іменна затым нямашака патрэбы „марнаваць“ на хамаў грошы, а паны-абшарнікі і самі патрапяць добра гаспадарыць.... Дык і трэба абрэзаць бюджэт міністэрства зямляробства і аднятыя ў яго грошы аддаць на ваеннае міністэрства.

З такім праектам у бюджэтнай камісіі выступіў пасол *Косьцялковскі*, з партыі „*Вызволене*“, які ў часе выбарнай агітацыі суліў нашаму сялянству залатыя горы і папаў у Сойм даверчывымі цераз меру беларускімі сялянскімі галасамі...

Але і тут нет ведама, ці нам плакаць, ці сьмяяцца: беларускае сялянства ад міністэрства зямляробства запраўды-ж дагэтуль ніякае карысьці для сябе ня бачыла! Ці не заплачуць па ім хутчэй... нашы „асаднікі“?!

* * *

Надовячы даразны суд у Вільні засудзіў на сьмерць або вечную катаргу пяцёх бандытаў—шофэраў, якія зрабілі аружны напад на двор Руская Рэша пад Вільняй і абрабавалі гаспадыню гэнага двара. Вось-жа на судзе пацярпеўшая Вольга Маркава апавядала, што бандыты, увайшоўшы ў яе дом, заявілі ей *парасейску*, што яны—*прадстаўнікі беларускае арганізацыі*....

Характэрна, што ўсе бандыты—*польскае нацыянальнасьці*, пераважна былыя вайсковыя, толькі-што зьняўшыя мундзір.

Але йшчэ больш характэрна тое, што дагэтуль беларускае імя кралі толькі *палітычныя бандыты*—розныя савінкоўскія „молодцы“, ды маскоўскія манархісты. Разахвоціўшыся ня толькі поўнай бяскарнасьцяй іх, але і даходнасьцяй такога „інтарэсу“, пачалі красьць беларускае імя і *звычайныя, непалітычныя бандыты*....

Дагэтуль небясьпечна было прызнавацца да беларускасьці затым, што кожны беларус, які не „працуе“ ў дэфэнзыве, быў абвешчаны „бальшавіком“ і „дывэрсантам“. Цяпер узьнімаецца новая прычына дзеля баязьні...

* * *

Ці-ж мала гаворыць гэтая жменя найнавейшых фактаў і ці-ж вымагаюць яны тлумачэньня?!.....

## Сколькі людзей жыве на утрыманьні дзяржаунага скарбу у Польшчы?

„Kur. Warszawski“ аблічыў, сколькі асоб жыве ў Польшчы на ўтрыманьні дзяржаўнага скарбу.

Па падлічэньням мін. Зьдзеховскага ўсяго чыноўнікаў, разам з чыгуншчыкамі, войскам і часовымі працаўнікамі, у пачатку 1925 г. было 739.098 асоб. Паводле падлічэньняў пасла Міхальскага лічба гэтая яшчэ большая: рабочых з урадоўцамі — 515.215, войска — 323.215, разам—838.430.

Калі лічыць, што кожын урадовец і работнік мае толькі жонку і адно дзіця, дык першая лічба пакажа 1.545.645 асоб. Таксама, калі лічыць сем'і генаралаў, афіцэраў, падафіцэраў дый вайсковых работнікаў (на фабрыках) зложанымі толькі з жонак, без дзяцей, тады ўсіх скарбовых утрыманцаў у войску трэба лічыць што найменш—430.465 чал. Разам з першай лічбаю будзе ўжо 1.976.110 асоб.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Польскі скарб корміць яшчэ 60.414 пэнсыянераў, 130.000 ваенных інвалідаў, 131.000 удоў і сірот; да таго трэба дадаць яшчэ 363.000 безработных, якіх таксама трэба лічыць з сем'ямі — у тры разы больш (адна жонка і адно атзіця). Дык усяго разам выходзіць ужо аж 3 мільёны 536 тысяч 524 асобы.

Але газэта забылася далічыць да гэтага яшчэ вялізарную лічбу ўгалоўных і—яшчэ большую — палітычных вязьняў у польскіх вастрогах. А гэтых усіх — няменш, як 30.000.

Гэткім чынам можна, не абмыліўшыся, лічыць, што ўсяго на ўтрыманьні скарбу (папросту—на народным, пераважна сялянскім) карку жывіцца да 4 мільёнаў людзей. Лічучы на 29 мільёнаў усяго насяленьня Польшчы, выходзе, што кожны восьмы—дзевяты жыхар Польшчы жыве на ўтрыманьні скарбу. Гэтага-ж няма абсалютна нідзе на сьвеце!..

## Сусьветныя гороскопы.

У канцы студня ў Маскве адбылася вельмі цікавая нарада Эканамічнай Рады Саюзу, на якой пад старшынствам Троцкага былі заслуханы даклады найлепшых спэцыялістаў аб сучасным стане і спадзяваньнях на бліжэйшую будучыну сусьветнай гаспадаркі. Было пастаўлена найцікаўнейшае ў сучасны мамэнт пытаньне: ці буржуазная гаспадарка, падстава палітычнай сілы буржуазіі ў сьвеце, уздымаецца, расьце, ці наадварот — гібее? Ясна, што ад адказу на гэтае пытаньне ў значнай меры павінна залежаць уся сацыяльна-палітычная тактыка баявога ўраду ССРР.

І вось, першы дакладчык, **Бyкшпан**, загадчык Аддзелу Сусьветнай Гаспадаркі Рады даў агляд пасьпехаў буржуазнай гаспадаркі ў сьвеце. З боку тэхнічнага поступ ёсьць. У пачатку 1925 г. лічбова ўжо дасягнуты, а навет і пераступлены даваенны ровень. Але ў самай гаспадарцы адбываюцца такія зьмены, якія зусім зьмяняюць яе буржуазны характар. Дык ці гэтыя пасьпехі трэба аднесьці на рахунак буржуазіі, гэта яшчэ—вельмі вялікае пытаньне.

Другі дакладчык, **Кондратьев**, адзначыў, што гэтыя агульныя пасьпехі вельмі няроўна раскладаюцца між буржуазнымі дзяржаўнымі адзінкамі сьвету і—**не на карысьць Эўропы** наагул. 1925 год даў выразны гаспадарчы ўздым у Амэрыцы і, наадварот, выразны спад у Заходняй Эўропе, асабліва ў Англіі і Нямеччыне. Трэба спадзявацца, што ў бліжэйшым часе вельмі завастрыцца **зямельны крызіс** на ўсім сьвеце, што выкліча адліў **насяленьня з вёскі ў месты**—на фабрыкі; з другога боку—з прычыны перапрадукцыі ў вялікіх прамысловых краёх—вельмі завастрыцца **канкурэнцыя** дый **барацьба за рынкі**. Амэрыка, Англія, Японія, Нямеччына будуць у хуткім часе даведзены да канфліктаў на полі сусьветнай канкурэнцыі. А ведама-ж, як хутка і лёгка з гэткай канкурэнцыі імпэрыялістычных адзінак вынікае **вайна**...

Праф. **Спэктатар** (лектар Інстытуту Народнай Гаспадаркі) у сваім аглядзе дайшоў таксама да вываду, што трэба ў бліжэйшыя 3 гады спадзявацца новых хістаньняў (крызісаў) сусьветнай гаспадаркі, а ў выніку гэтага — новых прыліваў у работніцкім руху.

Дакладчык **Фалькнэр** прадбачыць на бліжэйшыя 3 гады такі шпаркі гаспадарчы ўздым у Амэрыцы, які можа пагражаць ей зусім асаблівай небясьпекай — вялікім крызісам ад цераразмернага багацьця... Англія мае магчымасьць выраўнаваць сваю гаспадарчую і палітычную ролю ў сьвеце. Нямеччына лёгка пераможа свой гаспадарчы і палітычны крызіс. Навет Францыя здолее ўстабілізаваць сваю валюту. Аднак-жа, шкоднае разыходжаньне гаспадарчых роўняў Амэрыкі і Эўропы будуць істнаваць далей...

У сваей падсумоўваючай апошняй прамове **Троцкі** закідаў усім дакладчыкам залішне оптымі-

стычны пагляд на стан і магчымасьці сусьветнай буржуазнай гаспадаркі. Бо-ж навет самі найвыдатнейшыя эканамісты заходняй буржуазіі глядзяць значна сумней на будучыну яе гаспадаркі... Сусьветная вайна ясна даказала, што на тым шляху, якім ідзе імпэрыялістычная буржуазія, яе чакае **пагібель**... Дык ясна, што ўсе высілкі гэтай буржуазіі адбудавацца на даваенных падставах толькі выклічуць **новую вайну.** Але навет гэтая адбудова не дасягнута, бо яна ўжо немагчыма прынцыпова.

Англія, страціўшы свае сусьветныя рынкі, задыхаецца ад прамысловага крызісу ад шкоднага палітычнага і эканамічнага кансэрватызму, з якога ня можа выйсьці ў новае жыцьцё... Дык яе ўдзельная вага ў Эўропе зьмяншаецца бясспынна.

Францыя не разьвяжа фінансавага крызісу бяз глыбокіх сацыяльных устрасеньняў. Бо-ж, калі сучасны спор аб тым, хто павінен плаціць падаткі (справа, над якой вось ужо больш году б'юцца францускія ўрады!), вырашыцца на карысьць работнікаў і дробнай буржуазіі, дык гэта выкліча крызіс вялікай прамысловасьці краю, а за ім — безрабоцьце і ўсё, што яно з сабой нясе... Калі-ж, наадварот, урад зробіць уступкі буйнай буржуазіі (не наложыць падаткавы цяжар на іх маемасьці, як таго трэбуюць сацыялісты) і пачне душыць падаткавымі цяжарамі шырокія працоўныя масы, дык гэта выкліча рэвалюцыйны выбух...

Вельмі цяжка і Нямеччыне, якая, апрача гаспадарчых, мае шмат унутраных і вонкавых палітычных клапотаў, разрываючых яе на кавалкі...

Толькі ў багатай Амэрыцы запраўды відаць вялікі гаспадарчы ўздым. Але-ж, калі гэты ўздым будзе ісьці далей у тым напрамку і тым самым тэмпам (хуткасьцю), дык Амэрыка зусім задушыць Эўропу... А ў выніку гэтага пасьля задушыцца і сама... Калі ж, наадварот, разьвіцьцё Амэрыкі нешта затрымае звонку ці звутра, тады яе імпэрыялістычная буржуазія ня спыніцца перад новай вайной... А ў выніку яе—няўхільны рэвалюцыйныя ўстрасеньні ў краі...

Бязумоўна, капіталістычны сьвет яшчэ жыве, дый мае пэўныя сілы. Але няменш бясспрэчна і тое, што ён ужо—дажывае свой век... Ваяўнічая па сутнасьці свайго імпэрыялізму, узаемна-жываедзкая ў сілу сталай і ваенна-жорсткай узаемнай канкурэнцыі старая Эўропа раптам пачула прыліў нейкага „хрысьціянскага пацыфізму”, нейкага „міратворчага“ духу. Лёкарно, Злучаныя Штаты Эўропы і т. п...—Але ўсё гэта—толькі азнакі яе сабачай старасьці... Гібель гэтай старой буржуазнай Эўропы—нямінуча. І ня мы, зразумела, дамо ёй „перадышку“ на 15 гадоў, як аблічылі асьцярожныя дакладчыкі...

Ідзе бяссумліўна новая **сацыялістычная** Эўропа... Пакуль яна яшчэ ня прышла, старая Эўропа толькі вядзе барацьбу проці нашага ўплыву... Але для новай Эўропы ўся тая вялізарная праца, якую мы вядзём тут, будзе мець рашучае значэньне **вялікага дасьледу і навукі**... Злучаная з намі новая сацыялістычная Эўропа станецца магутным чыньнікам гаспадарчага і палітычнага адраджэньня і ўздыму ўсей **Азіі**, якая мае вялікую будучыну... А аб ролі СССР у гэтым адраджэньні непатрэба навет казаць...

# Аб чым пішуць.

### „Прускі замах на Верхнюю Сілезію“.

Пад гэткім загалоўкам „Kur. Poran.“ зьмяшчае сэнсацыйны артыкул, у якім, — відаць, з „найлепшых крыніц“, — сцьвярджае, што „шпіёнская акцыя—толькі дробная частка далёка гразьнейшай дзеяльнасьці **германізаваньня Сьлёнску**, закроенай на аграмадныя проста разьмеры“.

„Прадажнасьць, дэмаралізацыя... польскага элемэнту (ў краі), агітацыя за адарваньне Сілезіі ад Польшчы — вось сталыя прынцыповыя спосабы працы нямецкіх арганізацыяў“. „Калясальныя сумы атрымлівалі нямецкія арганізацыі з Нямеччыны і Амэрыкі“, якія „назначаліся на абнямечваньне і адарваньне Сілезіі ад Польшчы“. „Як вялікія гэтыя сумы, відаць з таго, што, напрыклад, за некалькі апошніх дзён цэнтраля нямецкіх арганізацыяў (Фолькебунд) атрымала — чверць мільёна даляраў“.

За гэтыя грошы нямецкія арганізацыі

1) куплялі шпіёнаў-палякоў і немцаў, (але гэта— „драбніца“, як сьцьвярджае газэта);

2) давалі значныя дапамогі нямецкім безработным, часам „падкупаючы“ тым-жа і польскіх работнікаў;

3) „падкупалі“ бацькоў вучняў-палякоў, якія, кідаючы польскія школы, масова пераходзілі ў нямецкія;

4) „падкупалі“ польскіх грамадзян рэкрутаў, якія, каб ня служыць у польскім войску, уцякалі да нямецкай Сілезіі.

5) стваралі „тайных оптантаў“, якія, прыняўшы польскае обыватэльства, пасьля тайна запісываліся ў нямецкае, каб на ўсялякі выпадак мець падтрыманьне нямецкае ўлады.

Дык вось галоўныя праступленьні нямецкай арганізацыі ў Сілезіі. Гэта — германізацыя краю, якая йдзе „ў аграмадным папросту маштабе“ раўналежна з „дэмаралізацыяй і падкупнасьцю польскага элемэнту“ ў краі. А, як вынік першага і другога—грозны пасьпех „агітацыі за адарваньне Верхняй Сілезіі ад Польшчы“.

А польскія „патрыятычныя“ і „паўстанскія“ арганізацыі на Сьлёнску толькі падліваюць масла ў вагонь сваей „працай“. Прынамся, вось што піша ў „Rzeczposp.“ п. Корфанты, гэты „бацька сілезскіх „паўстанцаў“.

Усе дэфэнзыўныя весткі, падаваныя ў „Kur. Poran.“, Корфанты называе „пэрфіднай інсінуацыяй“-папросту агіднай брахнёй. Ен заяўляе, што:

1) Саюз „паўстанцаў“ зьяўляецца ў краі — „другой уладай“, „пабочным урадам“ — побач з дзяржаўнай уладай польскага ўраду.

2) Гэты „Саюз“ робіць сваю ўласную „палітыку пры помачы тэрору і фізычных гвалтаў“.

3) На гэты „Саюз“ няма ніякай управы ані на мейсцы, ані ў варшаўскім цэнтры.

4) Усё гэта разам — кампрамітуе Польскую дзяржаву ў вачох заграніцы“.

Астаецца дадаць толькі, што найбольш кампрамітуе сябе сама дзяржава, калі дапускае ўсё тое, што сцьвярджае п. Корфанты.

# Сойм.

### Экспозе мін. Зьдзеховскага ў бюджэтнай камісіі.

У бюджэтнай камісіі Сойму мін. фінансаў зрабіў чарговае экспозе, у якім высьветліў прычыны апошняга спадку злотага. Тлумачаньне міністра—такое-ж самае, якое дала наша газэта. Далей міністар казаў аб — „добрых відах“ на пазыку.. Праўда, гэтая пазыка відна, можа, толькі праз... тэлескоп, але ўсё-ж,—кажа міністар,—відна недзе на горызоньце... У канцы міністар скарбу слушна лямэнтаваў над „цяжкім палажэньнем міністра скарбу ў Польшчы“, якому ўсю яго працу псуе—„ўся наша ўнутраная палітыка“..,

Вось гэта—дык праўда. Але чаму-ж пан міністар, сябра „аб'яднанага ўраду“, жаліцца на Рачкевіча ў камісіі, але — не патрэбуе рашучай зьмены ўнутранай палітыкі ад свайго прэм'ера Скшыньскага?!.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Цікавая пагроза прэм. Скшыньскага.

Парыжская газэта „Echo de Paris“ („Рэха Парыжа“) зьмяшчае тэлеграму з Варшавы, быццам прэм'ер Скшыньскі заявіў англійскаму паслу, што, ў выпадку няпрызнаньня Польшчы сталага мейсца ў Радзе Лігі Народаў, яна змушана будзе—выйсьці з Лігі і наагул зьмяніць сваю вонкава-палітычную орыентацыю—ў бок... Радавай Расеі.

Відаць, ужо—няма іншай рады, як з агня кідацца ў полымя. Можа, папросту, пану Скшыньскаму — даражэй заходнія крэсы, як усходнія?!

### Пастановы Галоўнай Рады Эндэцыі.

Пасьля 2-дзённых нарадаў Галоўная Рада польскай эндэцыі прыняла рад пастановаў.

У галіне дзяржаўнай гаспадаркі эндэкі дамагаюцца далейшага абмежаваньня платы і правоў работнікаў, скасаваньня закону аб 8-гадзінным дню працы і іншых сацыяльных здабычаў работнікаў.

У галіне ўнутрана-палітычнай эндэкі трэбуюць зьмены Канстытуцыі і выбарнага закону — ў напрамку яўнага нацыяналістычнага гвалту. „Увесь дзяржаўны лад Польшчы, кажа рэзалюцыя, павінен быць датарнаваны да... нашых (польскіх, эндэцкіх!) нацыянальных патрэбаў“. Добра, — толькі трэба тады аддаць тым, у каго ўзялі, — 30 проц. няпольскага насяленьня і 50 проц. тэрыторыі!..

У галіне замежнай палітыкі эндэцыя, ведама-ж, дамагаецца—сталага мейсца ў Радзе Лігі для Польшчы, якая мае „вялікія заданьні ў Усходняй Эўропе“.

Асабліва пікантна паставіць гэтыя абодва дамаганьні побач: абвяшчэньне далейшай, больш заядлай вайны з нацыянальнымі меншасьцямі ў Польшчы, якімі як ні як усё-ж афіцыяльна апякуецца Ліга Народаў, і—трэбаваньне мейсца ў вышэйшым органе гэтай Лігі,—каб праз яе спаўняць эндэцкія „заданьні“—зьніштажэньня гэтых меншасьцяў!..

### Амаль не дайшло да крыві і ў Лодзі.

Навет урадавы „Robotnik“ абураецца на ваяводзкую паліцыю ў Лодзі, якая, па загаду п. ваяводы (былы „пэпээсавец“ п. Даровскі!), амаль не пачала расстрэліваць вялізарную таўпу народу на хаўтурах ведамага і агульна паважанага былога пэпээсаўца, перайшоўшага ў камунізм, грам. Рыхлінскага. „Robotnik“ (і ён навет шануе гэтага камуніста!) піша, што навет простыя паліцыянты стыдаліся спаўняць загады „паліцэйскіх афіцэраў“, казаўшых разганяць таўпу. Дык толькі гэтаму „стыду“ трэба дзякаваць, што крыві не пралілося.

### „Крэсавая сэкцыя“ ўсьцяж „працуе“.

„Крэсавая сэкцыя“ Рады Міністраў з сваімі „экспэртамі“ ўсьцяж працуе. Пасьля трохразовага адкладу нарэшце сабраліся яе сябры на паседжаньне, на якім прынялі вельмі важную пастанову: усемерна дапамагаць жыдоўскай меншасьці ў Польшчы... выбірацца ў Палестыну!

Цікава, куды пачне выпраўляць гэта „сэкцыя“ польскага міністэрскага розуму беларусаў дый украінцаў?!

### Рабунковы вываз збожжа.

Мы пісалі аб тым, хто найбольш зарабіў увосені на спадку злотага. Цяпер падаем апошнія лічбы вывезенага збожжа з краю абшарнікамі.

Ад жніўня да лютага ўсяго вывезена: пшаніцы — 120.000 тонаў, жыта—206.000 тон., ячменю—107.000 тон. і аўса—45.000 тонаў.

Фактычны выхаз збожжа з краю перавысіў дазволеную колькасьць наагул на 100 проц., ці роўна ў 2 разы. Бо, напрыклад, пшаніцы, паводле падрахунку ўрадавых інстытуцыяў, можна было вывезьці бяз крыўды для спажыўцоў краю ня больш, як 60.000 тонаў. Вывозячы ўдвая больш, чым можна, абшарнікі забіваюць адразу двух зайцаў: кладуць у кішані добрую валюту (трымаючы яе ў заграічных банках) і, пазбавіўшы край збожжа, пасьля падыймаюць цэны на тое, што асталося. А адначасна — рыхтуюць сабе ізноў у часе новага ўраджаю карысны для іх новы спадак польскай валюты. Бо-ж ведама—вясной і ўлетку ізноў прыдзецца купляць хлеб заграніцай, на што ізноў пойдуць усе запасы валют Польскага Банку.

Гаспадараць сабе ў Польшчы, як у ўласным маёнтку.

### Фальшаваньне палітычных заяваў.

Ня толькі віленскае абшарніцкае „Słowo“ мае „спэцаў“ ад фабрыкаваньня нябылых гутарак з беларускімі палітычнымі дзеячамі, але гэтым займаецца і „вялікая“ варшаўская прэса. Гэтак „Nowy Kurjer Polski“ сфабрыкаваў і надрукаваў інтэрв'ю з новым камуністычным паслом у Сойме—Варскім-Варшаўскім, які рашуча запратэставаў проці прыпісываньня яму таго, чаго нікому не казаў.

Як бачым, „Крэсы“ вучаць сталіцу.

## Заграніцай.

### Узнаўленьне адносінаў між Бэльгіяй і СССР.

Кароль Альбэрт даручыў міністру заграічных спраў чым хутчэй падрыхтаваць справу ўзнаўленьня нармальных адносінаў з СССР. Адзін з выдатных бэльгійскіх дыпляматаў едзе ў Маскву, каб асабіста на месцы падрыхтаваць справу.

### 200 новых аэрапляпаў для радавай арміі.

Рада народных камісараў СССР зацьвярдзіла плян пакупкі 200 новых аэрапляпаў для радавай арміі. Заказы будуць зроблены францускім і галяндзкім фабрыкам.

### Аб'яднаньне Аўстрыі з Нямеччынай.

Ня гледзячы на ўсе пагрозы і засьцярогі з боку розных „вялікіх“ і „невялікіх“ дзяржаў, няўхільны і непераможны працэс аб'яднаньня аднакроўных Нямеччыны і Аўстрыі ідзе, што-дзень павялічываючы хуткасьць. Якраз пасьля страшэнных пагрозаў Мусоліні вайной за гэтае імкненьне, Аўстрыя сама зрабіла новы рашучы крок на шляху аб'яднаньня з Нямеччынай. Усе торговыя палаты Аўстрыі і іншыя важнейшыя эканамічныя ўстановы яе зьвярнуліся да Нямеччыны— з просьбай аб безадкладнай крэдытнай і палітычнай дапамозе, матывуючы гэта тым, што страчаны ўжо апошнія надзеі на самастойнае існаваньне Аўстрыі.

### Магчымасьць адстаўкі румынскага ўраду.

З прычыны значнага паражэньня ўрадавых кандыдатаў у часе выбарнай кампаніі ў меставыя самаўрады, лічацца з магчымасьцяй адстаўкі ўраду. Наагул урадавыя групы атрымалі толькі трэцюю частку галасоў. Цікава, што ў Бэсарабіі не прайшоў ніводзін з кандыдатаў ураду, а толькі—прадстаўнікі апазіцыі...

Даліся ў знакі „братіаньчыкі“ тамтэйшаму насяленьню...

### Змаўляюцца проці Кітаю.

Пасьпех японскага найміта Чанг-Тсо-Ліна, разьбіўшага частку кітайскай народнай арміі, дадаў новыя сілы насеўшым на Кітай жываедам-імпэрыялістам. Да Японіі зараз-жа далучылася Францыя, якая мае вялізарныя абшары на паўдні ад Кітаю (Інда-Кітай). Яна падпісала з Японіяй умову, якой абодва жываеды гарантуюць адзін аднаму іх панаваньне—аднаму на поўначы, другому на паўдні.

Кітайскі ўрад заявіў рэзкі пратэст проці гэтай француска-японскай умсвы. Але абодвы саюзьнікі адказалі на гэты пратэст—сумлівам, ці мае гэты „Пэкінскі“ ўрад якую ўладу па за Пэкінам?!

Гэтая ўмова, тэкст якой пастаноўлена не апублікоўваць, паказывае, што ў далёка-ўсходнюю барацьбу ўвязалася актыўна і рашуча яшчэ Францыя. Мала ябе б'юць яшчэ ў Марокко і Сірыі?! Мала яшчэ гэтая „сусьветная палітыка“ абрабавала скарбовыя касы Францыі?!

З другога боку і прыхільнікі нацыянальнага вызваленьня Кітаю—у паразуменьні з СССР—ня сьпяць. У Манголіі канцэнтруюцца радавыя войскі. Ува ўсім паўночным Кітаі ідуць важныя стратэгічныя вайсковыя рухі. Адначасна ўсюды йдзе праца наёмных агітатараў—на карысьць розных дзяржаў-жываедаў, разьбіваючых адзіны нацыянальны фронт народу. І ў гэты крытычны мамэнт ізноў не аказалася ніякага цэнтральнага ўраду ў вялізарным краю. Пэкінскі ўрад, запужаны Чангам (Японіяй), баючыся рашуча абаперціся на народную армію і на Рады, фактычна ня існуе. Вялікі край, разьбіваючыся на кавалкі, робіцца здабычай абляпіўшых яго крывапійцаў-чужакоў.

Вось, што робіць, як заўсёды і ўсюды, агіднапраступная праца прадаўшыхся за срэбнікі здраднікаў!

лягглося: Няхай жыве Грамада!—і гучныя воплескі запоўнілі салю.

Трэба адзначыць, што на мітынгу было даволі шмат польскіх работнікаў — асабліва чыгунщчыкаў, якія ў большасьці салідарызаваліся зусім выразна і адкрыта з агульным настроем: зьявішча новае і цікавае...

На сходзе прададзена каля 200 нумараў „Беларускай Нівы“ і шмат іншае літэратуры.

Пасьля мітынгу натоўп безработных паявіўся пад домам прэзыдэнта места, трэбуючы арганізацыі публічных работ і помачы безработным.

Паліцыя, як заўсягды, ня прымусіла сябе доўга чакаць і прыкладамі пачала „навадзіць парадак“. Колькі чалавек пабіты да крыві, 9 арыштаваны. Паслы рабілі захады перад камэндантам павятовай паліцыі, каб звольніць арыштаваных. Ен аб‘ясьняў, што быццам натоўп хацеў абезаружыць паліцыю.. Можа яно й так, але скарэй што паліцэйская прычэпка.

**Берасьцейскі.**

# Карэспандэнцыі.

## Як у часы паншчыны.

(Мядзьведзіцкая воласьць, Баранавіцкага пав.).

У нашай воласьці здарыўся выпадак, які прыпамінае сабой былыя часы паншчыны на нашых землях, напамінае тыя праклятыя часы, калі мог зьдзекавацца над мужыком-беларусам пан так, як яму падказывала дзікая, нялюдзкая фантазія.

Адзін беларус, па прафэсіі вучыцель пачаткавай школы, Адам Мілюк, сеў на зямлю, каб пракарміць сябе і сваю сям‘ю ў часы безрабоцьця. Па сваей спэцыяльнасьці працаваць у школе яму не даюць, школ беларускіх няма, і вось, гэты вучыцель узяўся на хутары Гашчын за культурнае вядзеньне гаспадаркі, даючы добры прыклад суседзям-сялянам. Суседзі шануюць Мілюка і паважаюць яго, як свайго брата-мужыка, разумнага і гаспадарнага чалавека.

Такія адносіны да Мілюка акалічных сялян не падабаюцца мяйсцовай засьцянковай шляхце; гэтыя паны аднаго дня і пастараліся паказаць на дзеле, што яны тут усё, што яны паны палажэньня і што ім усё можна ў адносінах да селяніна-беларуса, што ўсякі зьдзек іх над апошнім пройдзе ім бяскарна.

Вось, як гэтае было:

14-га лютага гэтага году ад 11 гадз. раніцы Мілюк паіў жывёлу на сваей гаспадарцы. Якраз у гэты час на зямлю яго хутара, бяз усякага запытаньня ў Мілюка, як гаспадара. забралася паляваць са сваімі апрычнікамі-лясьнікамі (gajowemi) мяйсцовая шляхта: Тадэуш Корчыц з фальварку Зеленец, Станіслав Райскі з фальв. Запольле, Юры Навіцкі з фальв. Савейкі з сваім эканомам Антонам Славінскім; з імі былі лясьнікі: Антон Гурэцкі з Савеек, Сьцяпан Місюкевіч з фальв. Дакуцкіх і Язэп Матэльскі з Запольля. У часе вадапоя конь Мілюка вырваўся, выбег з падворку і панёсься на луг, дзе пасьвіўся заўсёды ўлетку і дзе ў гэты мамэнт—на няшчасьце Мілюка—зрабілі засаду на зайцаў няпрошаныя госьці—паны Навіцкі і Райскі. Баючыся, каб гэныя паляўнічыя зьнячэўкі не застрэлілі каня, Мілюк пабег сьледам за канём, стараючыся злавіць яго і загнаць у стайню. Бегчы прышлося Мілюку якраз блізка ад засеўшых Навіцкага і Райскага. Мілюк у далікатны спосаб заявіў гэтым паном, што ўсе-ж брыдка без запытаньня паляваць на чужым агародзе. На гэта Навіцкі паскудна вылаіўся па адрэсу Мілюка і раптам запатрабаваў ад Мілюка ні з таго ні з сяго пашпарту (dowodu osobistego), дадаўшы пры гэтым, што ён запрошаны на паляваньне тут праз Корчыцца. Плюнуў, урэшце, Мілюк на абразы з боку шляхтуноў гэных і ўзноў памчаўся за канём, рупячыся хутчэй заперці яго ў хлеў. Не спадабалася, відаць, паном-шляхце павядзеньне Мілюка, што ён мімаволі перашкодзіў можа іх спакойнаму паляваньню на яго зямлі і Навіцкі і Райскі, а роўна і Корчыць, які быў тут-жа недалёка, пачалі клікаць пачакаць (zaczekaj, zaczekaj“)! Прыстанавіўся Мілюк. Падыйшлі да яго Корчыц і Антон Славінскі,—апошні падыходзіў з грубай лаянкай, абзываючы Мілюка „бандытам“. У часе размовы Мілюк сказаў Корчыцу, што неганарова без запытаньня паляваць на чужых грунтах і яшчэ запрашаць на гэта другіх. У гэты момант Мілюку нячакана быў нанесены удар у правае вуха прыкладам стрэльбы, ад чаго ён зваліўся на зямлю. Паднімаючыся з зямлі, Мілюк дастаў другі ўдар ізноў-жа па галаве, а пасьля ўжо ляжачага яго таўклі паны па ўсім целе, колькі хацелі. І толькі дзякуючы таму, што на крыкі зьбіванага Мілюка падбег сьведка—хлапец Уладзімір Студзенічнік з суседняга хутара Аляшкевіча—напасьнікі цугам—адзін за другім як найхутчэй сьціраваліся ў кусты. Пабоі наносілі лясьнікі Гурэцкі, Місюкевіч і Матэльскі, а хлебадаўцы гэтых апрычнікаў — „gajowych“ стаялі побач з мейсцам разбою і падзадоравалі сваіх памоцнікаў да зьдзекаў над няшчаснай ахвярай. Як відаць, з гэтаю толькі мэтаю паны Навіцкі, Райскі і Корчыц і крычалі Мілюку пачакаць нібы для размовы, а на самым дзеле, каб даць магчымасьць лясьнікам падбегчы і зьбіць сьмелага гаспадара, які выпадкова перашкодзіў іхняму паляваньню ды яшчэ пасьмеў сказаць паном-шляхце няпрыемнае слова наконта паляваньня на чужой зямлі.

Ну, і чым-жа не часы паншчыны? Гэта-ж тады толькі селянін ня меў права забараніць усемагутнаму пану паляваць на вясковых грунтах ды ня меў права жаліцца нікому на пана за пабоі! А цяпер, здавалася-б, ужо ня тыя часы... Цікава было-б ведаць, што адкажа Мілюку на ягоную скаргу аб нападзе Староста Баранавіцкага павету?

**N.**

## Да справы будынку беларускае школы ў в. Збляны.

(Беліцкая воласьць Лідзкага павету).

*(гл. „Карэспандэнцыі“ у № 16 (29) „Бел. Нівы“).*

Справа беспадстаўнага пераносу школьнага будынку з вёскі Збляны ў мястэчка Беліцу пачынае набываць значэньне шырэйшых разьмераў. З прычыны часовага перарыву ў паседжаньнях Сойму дэлегацыя ад сялян вёскі Збляны, шукаючы беларускіх дэпутатаў, сьціравалася была ў прошлым тыдні не ў Варшаву, а ў Вільню. Дэпутаты Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў гэты час былі на працы ў правінцыі і толькі Сым. Рак-Міхайлоўскі аставаўся ў Вільні, які з прычыны падупаўшага здароўя ўжо ад двух тыдняў, не выяжджаючы з Вільні, лечыцца. Паінфармаваны вынарцамі аб тым, што ўчыняе ўлада на мейсцы з сялянамі асабліва ў справе адбіраньня ад в. Збляны школьнага будынку, які зблянаўцы збудавалі ў 1915 г. на мейсцы згарэўшага, дэпутат, ня могучы асабіста выехаць ў Варшаву, выслаў 17. II. да Міністэрства Асьветы з копіяй да Міністэрства Унутраных Спраў у Варшаве тэлеграму гэткага зьместу:

„Назначаны праз Лідзкага Старасту супроць волі гміннай рады войт Беліцкай гміны Вадэйка пад намовамі ксяндза з фальварку Нецеча проці волі ўсяе люднасьці пераносіць з дазволу Старасты школьны будынак, збудаваны мяйсцовую люднасьцю, з вёскі Збляны да мястэчка Беліца Лідзкага павету. Пратэстуючы проці бяспраўя і пагвалчаньня правоў беларускае люднасьці, прашу аб безадкладным затрыманьні разборкі будынку да часу належнага вырашэньня гэтае справы паводле скаргі сялян вёскі Збляны, перасланай Беларускім Соймавым Клюбам да Міністэрства Асьветы ў красавіку леташняга году.

*Рак-Міхайлоўскі—дэпутат*“.

Барацьба за будынак гэты і за сваю беларускую школу ў в. Зблянах мае ўжо сваю гісторыю. Права на гэты будынак зблянаўцы маюць бясспрэчнае. Гэта-ж зблянаўцы самі, дабіўшыся ў 1914 г. страхоўкі за згарэўшы стары будынак ранейшай расейскай школы, пабудавалі сабе за $1^1/_2$ гады новы і вялікі будынак. Гэта-ж яны дабіліся, што ў часы нямецкае акупацыі з‘арганізавалі ў сваей весцы ў гэтым будынку беларускую школу. Гэта-ж яны сваей беларускай упартасьцю і адзінствам волі дабіліся таго, што пры „першых палякох“ яны моцна і мужна трымалі сваю беларускую школу, трымалі яе і ў часы „Сярэдняе Літвы“, трымалі амаль не да выхаду ў сьвет так званых „языковых уставаў“. Польская школьная ўлада, чым далей, тым больш насядала на Зблянаўскую беларускую школу, зьмяняючы адных і назначаючы другіх вучыцялёў туды і гэтак ціхім манерам, ступнёва перарабляючы беларускую школу на двуязычную—польска-беларускую, а потым і зусім выганяючы беларускую мову з Зблянаўскай школы. Вясной 1925 г. зблянаўцы, як адзін, склалі дэклярацыі польскаму школьнаму інспэктару ў Лідзе аб жаданьні мець у сябе толькі беларускую школу; ня гледзячы на ўсе нагаворы інспэктара, зблянаўцы моцна стаялі на сваім—і, мусіць, як вынік гэтага, адбылося паразуменьне паміж школьнай і адміністрацыйнай уладай і пастаноўлена было пазбавіць зблянаўцаў іхняга выгоднага школьнага будынку,—перавезьці яго туды, дзе ня так людзі стаяць за сваю родную школу.

Сумныя падзеі адбываюцца на нашых вачох. Але зблянаўцы ня трацяць надзеі на лепшую будучыну.

# Беларусы у Аргентыне.

## Жыцьцё эмігрантаў.

Вельмі многа эмігрантаў з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны выяжджаюць у Паўдзённую Амэрыку—у Аргентыну, спадзяючыся паправіць там свае жыцьцё, але ня ведаюць, што іх там спатыкае.

Тут, у Аргентыне, сотні тысячаў безработных,—галодныя, босыя, і церпячыя вялікую нэндзу—ня маюць за што зачапіць рук і праклінаюць свае жыцьцё. Па большай частцы ўсе яны з Заходняй Беларусі і Заход. Украіны.

Многія агенты вярбуюць работнікаў, заклікаючы іх у Амэрыку, і абяцуюць ім залатыя горы, —а самы робяць гешэфты на вялікім безрабоцьці.

Дык-жа мы праз прэсу перасьцерагаем сваіх братоў, каб устрымаліся яны ад падобнага згубнага паступку. Добра было-б, каб і духавенства ў царквах папераджала прыхаджанаў, калі хто хоча ехаць у Аргентыну.

Працаваць на ральлі ў Аргентыне наш брат таксама ня можа, бо там страшэнная сьпёка, і нашыя людзі, прывыкшыя да ўмеркаванага клімату, гінуць ад малярыі і сонечных удараў.

Хоць Аргентына заселена дужа рэдка, але, каб там асесьці, дык трэба на гэта вялікія грошы, а Аргентынскі ўрад і ня думае даваць якуюсь дапамогу для гэтых эмігрантаў.

Дык вось жа я перасьцерагаю ўсіх, хто-б хацеў ехаць у Аргентыну, каб пасьля не пракліналі свае долі.

Хто ня верыць часопісам,—з прыемнасьцяй асабіста дам інфармацыі, калі хто зьвернецца да мяне паводле тут пададзенага адрасу.

**Уладзімір Марак.**

Buenos Aires Calle Darvin 158
Senor Marak Volodymyr
Argentina. Sud Amerika.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22